www.nv-online.info

№ 22 (4274)

16 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»* **в Facebook** *www.facebook.com/nv.online.info* **в Vkontakte** *www.vk.com/nvonlineinfo*

# 25 сакавіка – 100-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі

## План арганізатараў

Арганізатары мітынгу-канцэрта “Свята Незалежнасці” апублікавалі фінальную афішу.

Канцэрт пачнецца ў 14.00 (збор удзельнікаў – у 13.00) і працягнецца да 19.00. Як вядома, бел-чырвона-белыя сцягі дазволены.

Весці музычна-забаўляльную частку будуць акцёры «Свабоднага тэатра» **Аляксей Сапрыкін** і **Юлія Шаўчук**, адкрыццё правядуць славутая тэледыктарка **Зінаіда Бандарэнка** і вядучы «Белсата» **Усевалад Сцебурака**. Напярэдадні канцэрта запланавана тэатральна-музычная праграма з удзелам акцёраў «Свабоднага тэатра».

Паралельна з канцэртам будуць дзейнічаць пляцоўкі «Вуліца БНР» з зонамі актыўнасці, «Ежа БНР» з пунктамі харчавання, «Кірмаш БНР» з сувенірамі і дзіцячая пляцоўка «Дзеткі БНР». У час свята плануецца розыгрыш прызоў ад спонсараў.




## Каго не ўбачым?

Арганізатары запрашалі таксама **Сяргея Міхалка** – лідара гуртоў Brutto і «Ляпіс-98», але ён ім не адказаў. А вось дырэктар Міхалка паведаміў, што ў гэты дзень Сяргей будзе выступаць з «Ляпісам» у Мазыры, як было запланавана раней.

**Лявон Вольскі** таксама абвясціў, што не зможа выступіць у Мінску, бо яшчэ летам мінулага года прыняў прапанову выступіць у Польшчы на канцэрце, таксама прысвечаным да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

*«25 сакавіка я буду спяваць на святочным канцэрце ў Мінску, але ў рэжыме тэлемоста*, – паведаміў музыкант. – *Цягам апошніх двух тыдняў мы спрабавалі дамовіцца з арганізатарамі канцэрта ў Беластоку спачатку пра перанос на іншы дзень, потым – пра перанос хаця б на некалькі гадзін, але яны маюць свае абавязкі і кажуць, што гэта немагчыма*”.

Лідар гурта «Нейра Дзюбель» **Аляксандр Кулінковіч** адзначыў у сваім “Фэйсбуку”, што і яны не будуць выступаць на святочным канцэрце “ *па тэхнічных прычынах*”.

На свята запрасілі і эстраднага спевака **Аляксандра Саладуху, і той адразу не адмовіўся ад выступлення. Праўда, праз некалькі дзён заявіў, што адмаўляецца ад удзелу ў мерапрыемстве, бо** *«звязаўся з людзьмі, якія сказалі, што не трэба там быць»*.

## Хто выступіць на канцэрце?

На гэты момант на выступленне далі згоду Dzieciuki, Akute, Amaroka, «Мутнае вока», Разбітае Сэрца Пацана, Кася Камоцкая, Ігар Варашкевіч, Юрый Стыльскі, Пётр Клюеў, “Спеўны сход”.

Выступленні яшчэ некалькіх вядомых гуртоў будуць аб’яўлены за некалькі дзён да 25 Сакавіка.

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## Што плануе Мікалай Статкевіч?

– Мы просім Мінгарвыканкам дазволіць нам мітынг і шэсце, – кажа палітык. – І ў любым выпадку скарыстаемся сваім канстытуцыйным правам адзначыць слаўную дату. Мы не будзем абмяжоўвацца ў тэматыцы і забіраць у некага плакаты. Людзі, якія прыйдуць, могуць выказацца і пра свае праблемы. А пасля мы збіраемся прайсці па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатра.

**– Менавіта там і адбудзецца канцэрт, які дазволілі гарадскія ўлады…**

– Улада пайшла на тое, што не толькі ў сталіцы, але і ў многіх буйных гарадах далі дазвол на святкаванне 100-годдзя БНР. І тое, што звярнулі ўвагу на лёсавызначальную дату, гэта, безумоўна, станоўчы момант.

Але ў той жа час трэба разумець матывы, якімі кіруюцца чыноўнікі. На мой погляд, найперш гэта робіцца з-за таго, што існуюць знешнія і ўнутраныя пагрозы. Першая – у краіне маецца сацыяльная напружанасць. Другая – пасля прэзідэнцкіх выбараў у Расіі таксама можа быць рознае развіццё падзей.

Таму зараз афіцыйны Мінск хоча паказаць Захаду сваю міралюбівасць і незалежнасць, а мы ў сваю чаргу паспрабуем захаваць у краіне пратэстную апазіцыю.

**– Не выключаеце варыянт, што вас, як і астатніх палітыкаў, якія запрашаюць людзей на шэсце, могуць напярэдадні 25 Сакавіка адправіць “на суткі”? У такім выпадку проста падставіце тых, хто адгукнецца на ваша запрашэнне…**

– А вы не выключаеце варыянт, што на канцэрце таксама нехта будзе вельмі гучна спяваць, дачэпяцца праваахоўнікі, чалавек іх штурхне і атрымае 3 гады калоніі, як гэта нядаўна здарылася са Святаславам Барановічам? Таму хто вам заўтра дасць нейкія гарантыі? Што тычыцца нашай магчымай ізаляцыі, то, думаю, знойдуцца і іншыя лідары. Беларусь павінна ведаць, што пад бел-чырвона-белымі сцягамі ёсць і пратэстная апазіцыя.

**Алесь СІВЫ.**

**СПРАВАЗДАЧА**

## Юрась ГУБАРЭВІЧ: «Раскажам пра кожную патрачаную капейку»

*Арганізатары сабралі да святкавання 100-годдзя БНР ужо больш за 31 тысячу рублёў.*

На платформе «Талака» працягваецца грамадская кампанія па зборы сродкаў на Дзень Волі. Учора (на момант, калі газета падпісвалася ў друк) было ўжо сабрана 31.320 рублёў (89 працэнтаў неабходнай сумы). Усяго ж неабходна 35 тысяч.

– Пазней мы надрукуем поўную справаздачу па выдатках, – кажа адзін з арганізатараў **Юрась Губарэвіч.**

**– Першапачаткова планавалася сабраць 20 тысяч рублёў, пазней сума вырасла да 35 тысяч. Чаму лічба павялічылася амаль у два разы?**

– Збор быў распачаты яшчэ да таго, як стала вядома, што гарадскія ўлады дазволілі канцэрт ля Опернага тэатра. Натуральна, калі магчымасці і маштабы правядзення мерапрыемства пашырыліся, скарэкціравалася і сума. Грошы неабходны для падрыхтоўкі вялікай сцэны, арэнды апаратуры, для інфармацыйнай падтрымкі свята… Але, паўтаруся, мы раскажам пра кожную патрачаную капейку.

**Ганна САМУСКЕВІЧ.**

**СЕНСАЦЫЯ З КІЕВА**

## Надзея Саўчанка рыхтавала захоп улады?!

Дэпутат Надзея Саўчанка, якую калісьці ўвесь свет выцягваў з расійскага палону, рыхтавала дзяржаўны пераварот з тэрарыстычным актам у будынку Вярхоўнай Рады. Пра гэта паведаміў падчас выступлення ва ўкраінскім парламенце генеральны пракурор Украіны Юрый Луцэнка. Згодна з ягоным паведамленнем, Саўчанка планавала абстрэл з мінамётаў купала будынка, а таксама ўрадавай і прэзідэнцкай ложаў.

Луцэнка катэгарычна заявіў: пракуратура мае дастаткова доказаў, што Саўчанка была звязана таксама з перамоўшчыкам па пытаннях абмену палоннымі з ДНР і ЛНР Уладзімірам Рубанам, які быў затрыманы напярэдадні. Па справе Рубана Саўчанку, якая ў той момант знаходзілася ў Страсбургу, выклікалі на допыт у Службу бяспекі Украіны, куды яна і прыбыла ў прызначаны час 15 сакавіка.

Луцэнка звярнуўся ў Вярхоўную Раду з запытам аб скасаванні дэпутацкай недатыкальнасці дэпутата Саўчанка. На момант падрыхтоўкі нумара ў друк не было вядома, ці задаволіла Рада зварот генеральнага пракурора; вядома толькі, што дэпутата выключылі са складу камітэта па пытаннях бяспекі. Але ж сама Саўчанка заклікала ўкраінскіх вайскоўцаў і грамадскасць зрынуць “антынародную ўладу Пятра Парашэнкі”.

Нагадаем, што пэўны час пасля свайго звальнення з расійскага палону Надзея Саўчанка была самым вядомым і папулярным украінскім палітыкам. Але пасля таго, як Саўчанка засведчыла свае прэзідэнцкія амбіцыі, амаль уся палітычная эліта краіны і медыі, падкантрольныя алігархам, пачалі працаваць супраць яе.

**Фёдар КАНСТАНЦІНАЎ.**



**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для “Народнай Волі”

## Беларусь без цара…

Магчымыя змены Канстытуцыі зноў анансаваў Аляксандр Лукашэнка. Ён даручыў падумаць над гэтым суддзям Канстытуцыйнага суда на сустрэчы з імі 15 сакавіка. Пры гэтым сэнс гіпатэтычных змен акрэслены даволі туманна. Адно што кіраўнік краіны перасцярог: “*…Не трэба ў гэтым шукаць нейкія навіны, аж да фэйкавых*”.

Верагодна, афіцыйны лідар, які не першы раз кажа пра ўнясенне карэктываў у Асноўны закон, хоча прадухіліць каментарыі кшталту, маўляў, і ў нас, як, напрыклад, у Азербайджане, можа быць уведзены сямігадовы прэзідэнцкі тэрмін, а магчыма, і нейкі механізм, што спрыяе перадачы ўлады ў спадчыну. Дарэчы, не скажаш, што такая засцярога апанентаў Аляксандра Рыгоравіча беспадстаўная: канстытуцыйныя рэферэндумы 1996 і 2004 гадоў у нашай краіне адназначна былі скіраваны на ўмацаванне ўлады першага прэзідэнта.

Відаць, таму ўчора Лукашэнка зрабіў іншыя, цалкам, як мне здаецца, прагрэсіўныя акцэнты, падкрэсліўшы, што “*апошнімі гадамі прыняты рашучыя меры па развіцці высокіх тэхналогій, удасканаленні эканамічных адносін, аптымізацыі сістэмы дзяржаўнага апарату, надзяленні шырокімі паўнамоцтвамі мясцовых органаў улады*”. Маўляў, у гэтым кірунку і варта “*пагледзець на Канстытуцыю*”.

Хоць, пагледзеўшы на яе, мы сёння, калі гаварыць шчыра, і пад мікраскопам не знойдзем артыкулаў, палажэнняў, якія заміналі б высокім тэхналогіям, эканамічным рэформам ці скарачэнню чыноўніцкай касты. Затое адразу бачна, што многія гарантаваныя там правы і свабоды на практыцы заціснуты, урэзаны.

Што і казаць, беларускае заканадаўства – той выпадак, калі д’ябал хаваецца ў дэталях. Напрыклад, Канстытуцыя гарантуе свабоду сходаў, вулічных шэсцяў, але канкрэтны закон аб масавых мерапрыемствах абкладае іх ініцыятараў чырвонымі сцяжкамі. І папраўкі ў гэты закон, ужо прынятыя ў першым чытанні, могуць такіх абмежаванняў яшчэ і дадаць. Тое ж тычыцца і права на свабоду меркаванняў, іх вольнае выказванне: так, права дэкларуецца, але жорсткі закон аб СМІ дае Міністэрству інфармацыі занадта вялікія карныя паўнамоцтвы. І такія прыклады можна доўжыць. Звыш усяго, вертыкаль ды суды часта працуюць паводле прынцыпу “закон што дышаль”, крыва трактуюць нормы.

Калі глядзець шырэй, то ў Беларусі фактычна няма прававой дзяржавы, не працуе той прынцып вяршэнства права, што запісаны ў Канстытуцыі. Вось прэзідэнт ставіць Канстытуцыйнаму суду задачу распрацаваць прапановы дзеля павышэння эфектыўнасці ўсёй судовай сістэмы. Але ж, кладучы руку на сэрца, трэба сказаць, што ніякай самастойнасці судовай сістэмы ў нас не будзе, пакуль суддзі прызначаюцца прэзідэнтам.

Дарэчы, і сам Канстытуцыйны суд пасля рэферэндуму 1996 года выглядае безгалосым, сервільным. Не было выпадку, каб ён у нечым запярэчыў кіраўніку выканаўчай улады, як гэта бывае ў дэмакратычных краінах. Тое ж можна сказаць і пра беларускі парламент.

Так што напрошваюцца дзве высновы. Па-першае, на добры лад варта было б не вынаходзіць ровар, а напоўніць рэальным зместам тыя правы і свабоды, што адлюстраваны ў дзейнай Канстытуцыі. Трэба таксама перапрацаваць, дэмакратызаваць увесь масіў драконаўскага заканадаўства, прыбраць з яго мноства пастак, якія не даюць нармальна развівацца бізнесу, палітычнай канкурэнцыі, незалежным медыям, грамадзянскай супольнасці (у прыватнасці, даўно час скасаваць крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі).

Яшчэ болей, у многіх выпадках дастаткова змяніць правапрымяняльную практыку. Глядзіце: партыі ў нас не рэгіструюцца з 2000 года. Хіба праблема ў Канстытуцыі? Ды не ж, проста Мінюст заўжды знойдзе зачэпку, каб адмовіць неўпадабанай палітычнай сіле. А хіба Канстытуцыя забараняе ўключаць у камісіі апазіцыю, паказваць кожны бюлетэнь пры падліку галасоў на выбарах? Гэта ўсё пытанне палітычнай волі.

Па-другое, калі ўжо казаць пра магчымыя змены ў Асноўным законе, то варта найперш вярнуцца да рэальнага падзелу ўлад. Асабіста я не прыхільнік ідэі, што ў Беларусі найлепей было б увогуле скасаваць пасаду прэзідэнта, увесці парламенцкую рэспубліку. Чаму – гэта асобная вялікая тэма. Калі коратка, то моцная прэзідэнцкая ўлада, з майго гледзішча, патрэбна ў нашых умовах дзеля рашучых непапулярных рэформаў ды імгненнага рэагавання на непрадказальныя паводзіны Расіі.

Але разам з тым для мяне бясспрэчна, што мусіць існаваць дзейсная сістэма стрымак і процівагаў. Каб кіраўніка дзяржавы (які мусіць абірацца не болей як на два тэрміны) мог кантраляваць (калі трэба, блакіруючы непрадуманыя рашэнні) моцны, абраны ў рэальнай канкурэнтнай барацьбе парламент. І каб тыя ж суды маглі аспрэчваць нават волю кіраўніка дзяржавы, як тое мае месца, напрыклад, у ЗША, дзе нейкі ўказ Трампа могуць прызнаць неканстытуцыйным. Нарэшце, трэба даць абсяг для развіцця чацвёртай улады – незалежнай прэсы.

Без усяго гэтага развагі пра змены ў Асноўным законе выглядаюць проста як рытуальны спіч з нагоды Дня Канстытуцыі.

**ОФИЦИАЛЬНАЯ ПОЗИЦИЯ**



**Сергей ДУБИНА,** начальник управления автомобильного и городского пассажирского транспорта Министерства транспорта и коммуникаций:

## «Не хотите выезжать на маршрут – никто не заставляет»

*Что сегодня происходит на рынке междугородных перевозок? Много ли частников согласились работать на условиях, которые определены обновленной редакцией закона «Об автомобильном транспорте и автомобильных перевозках»?*

В прошлом номере «Народной Воли» индивидуальный предприниматель из города Славгорода Могилевской области, владелец четырех маршруток **Михаил Коршиков** заявлял, что он однозначно не будет работать по новым правилам. По его информации, такой позиции придерживаются многие водители маршруток в Могилевской области. Аргументы Коршикова: он лишится части прибыли, а пассажиры – удобств. Кроме того перевозчики и пассажиры маршруток, а также небезучастные к возникшей проблеме граждане собрали свыше 80 тысяч подписей и передали коллективное обращение на имя А.Лукашенко в Администрацию президента.

Пойдут ли власти на диалог? Как возникшую ситуацию оценивают в Министерстве транспорта и коммуникаций? За комментарием мы обратились к начальнику управления автомобильного и городского пассажирского транспорта ведомства **Сергею Дубине**.

– Рынок оживает. Сейчас ведется активная работа по выдаче «нерегулярщикам» временных разрешений на выполнение междугородных перевозок пассажиров в регулярном сообщении сроком на три месяца, – пояснил Сергей Станиславович. – Уже подано 138 заявлений, заключено 25 договоров.

**– 25 – это немного. К тому же сейчас поданных заявлений 138, а на 7 марта было 133. То есть получается, что маршрутчики, которые совершали нерегулярные рейсы, не торопятся перейти на регулярные перевозки, как того требуют изменения в законе?**

– Договоров 25, но они включают в себя 135 единиц подвижного состава, то есть микроавтобусов. Одним словом, можно заключить 30 договоров на 30 машин, а можно один на 50.

Работа ведется, нельзя сказать, что ситуация стоит на месте. Но многие перевозчики действительно заняли выжидательную позицию. Кто-то наотрез отказывается сотрудничать, а некоторые заявку подали, проект договора взяли и продолжают думать: идти или не идти в регулярные перевозки. Были случаи, когда по заявке перевозчика транспортная инспекция уже и договор составила, и паспорт маршрута определила, и терминалы – иди и работай, – а его не могут найти. Пропал. Через исполком ищем, через жену. Но со всеми так работать невозможно... Это же не принудительная процедура: не хотите выезжать на маршрут – никто не заставляет.

**– Но создаются проблемы для людей. Есть такие регионы, где маршрутки – самый удобный и едва ли не единственный вид междугородного сообщения. На сегодняшний день на всех этих направлениях возобновлено движение маршруток?**

– Не могу сказать, что на всех. Основные направления закрыты. Но, например, не заключен договор с перевозчиком на маршрут Минск–Гомель. Можно ли его назвать проблемным, если там хорошее железнодорожное сообщение? Поехали в режиме регулярного сообщения маршрутки на Слуцк, Солигорск, Копыль, Старые Дороги, Житковичи, Лиду, Гродно, буквально вчера (*14 марта.* – **Ред.**) закрыты вопросы по Витебску, Полоцку, Новополоцку, Бобруйску.

**– Жители некоторых городов жалуются, что рейсы возобновились, но их мало и расписание не всегда удобное.**

– На всех маршрутах график движения составляется максимально удобный для местных жителей, чтобы у них была возможность рано утром уехать, а вечером вернуться.

*(Окончание на 2-й стр.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
16 САКАВІКА 2018 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# З «Жыгулёў» – на «Мерседэс»

*Хутка будзе год, як на сталічных дарогах з'явіліся першыя айчынныя электробусы. Карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся, як працуе ў Мінску новы гарадскі транспарт.*



У 2016 годзе "Белкамунмаш" прадставіў на выставе ў Берліне сваю навінку – электробус мадэлі E433 Vitovt Max Electro, і гэта, на думку многіх спецыялістаў, стала для Еўропы самым сапраўдным сюрпрызам. А ўжо вясной мінулага года *"транспарт XXI стагоддзя"* з'явіўся на вуліцах Мінска.

Усе 20 электробусаў знаходзяцца ў сталічным тралейбусным парку №2. Намеснік дырэктара па перавозках гэтага парка **Аляксандр МАЗГО** распавядае мне, што "новая тэхніка – проста супер", і паказвае машыну, якая збіраецца выйсці на лінію.

*"Як вядома, для электробуса не патрэбны электраправады (як для тралейбусаў) альбо паліва (як для аўтобусаў),* – пачынае Аляксандр Уладзіміравіч. – *Ён мае перадавую сістэму накапляльнікаў электраэнергіі на базе суперканддэнсатараў, што і дазваляе машыне рухацца".*

Вытворчасцю гэтых самых суперканддэнсатараў пачало займацца кітайскае ТАА «Чэнду Сінджу Шаўковы Шлях Развіццё», якое знаходзіцца на тэрыторыі Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парка "Вялікі камень". Накапляльнікі энергіі маюць дастаткова высокія паказчыкі надзейнасці: колькасць цыклаў зараду-разраду – больш за 100 тысяч, рэсурс – каля 10 гадоў. На адным зарадзе электробус можа праехаць да 20 кіламетраў, зараджаюцца машыны на дыспетчарскіх станцыях альбо канцавых прыпынках ад токапрыёмнікаў з пад'ёмным механізмам. На падзарадку ідзе ўсяго 5–8 хвілін.

*"У парку працую пяць гадоў і раней пра новую тэхніку атрымліваў толькі нейкую агульную інфармацыю,* – далучаецца да размовы вадзіцель электробуса **Анатоль АНЦІЛЕЎСКІ**. – *Калі пастуліла прапанова папрацаваць на такой машыне, я пагадзіўся. Атрымаў катэгорыю "Д", прайшоў стажыроўку... Спачатку было нязвыкла, але прызвычаіўся да новай тэхнікі даволі хутка".*

Вадзіцель паказвае мне кабіну: *"Яна падагрэецца, гэтак жа як і люстэркі. Салон ацяпляецца, але ад дызельнага паліва, таму ёсць бакі на 16 літраў. Сядзенне для вадзіцеля таксама зручнае. Калі працаваў на тралейбусе, то пасля змены і спіна магла разбалецца, а зараз – поўны камфорт".*

Магутнасць электрарухавіка машыны – 150 кВт, максімальная хуткасць – 60 км/г. Знешне электробус падаецца "маштабнай тэхнікай", але насамрэч яго вага не такая і вялікая – 17,5 тоны (пры максімальнай загрузцы – 28 тон). Знешняя абшыўка зроблена з кампазітных матэрыялаў, якія не падвяргаюцца карозіі, а ўнутраная – пластык і алюмініевыя панэлі.

*"І вось гэтыя 20 тон плывуць па дарозе, як лайнер па аблоках,* – вобразна выказваецца пра сваю тэхніку Анатоль. – *Электробус вельмі мяккі і плаўна рухаецца і мае добрую манеўранасць. Вось, напрыклад, калі я працаваў на тралейбусе і на дарозе здаралася аварыя, то на месцы ДТЗ даводзілася стаяць, бо абмінуць яго было немагчыма. А зараз – лёгка! І пагляздзіце, якія тут шырокія дзверы. Пасажыры не піхаюцца, а свабодна могуць зайсці. Нізкая падлога, а таму сталым людзям не трэба караскацца на прыступках, а значыць, час пасадкі і высадкі змяншаецца. Гэта, можа быць, і дробязі, але менавіта яны ствараюць камфорт і для вадзіцеля, і для пасажыраў".*

У салоне, які разлічаны на 153 пасажыры (38 месцаў для сядзення), ёсць дзве разеткі на 220 вольт, два раз'ёмы USB, кандыцыянер, сістэмы відэаназірання і вогнетушэння.

Дарэчы, за гэты год было некалькі выпадкаў, калі электробусы загараліся. Першы раз здарэнне адбылося ў верасні мінулага года на вуліцы Ваупшасава, але машына знаходзілася на абкатцы, і пасажыраў у салоне не было. Тады было заяўлена, што прычынай аварыі стала кароткае замыканне электрапад'ёмніка. Другі раз аварыя здарылася ў лістападзе – на дыспетчарскай станцыі "Дружная". На прадпрыемстве патлумачылі, што гэта адбылося з-за вентылятараў, якія паставіла галандская фірма.

*"Пакуль гэтыя машыны яшчэ працуюць у тэставым рэжыме,* – дадае Аляксандр Мазго. – *Прадпрыемства эксперыментуе, пастаянна дапрацоўвае машыны, а мы, са свайго боку, па ходу эксплуатацыі транспарту ўносім уласныя прапановы. Але распрацоўка, як мне падаецца, вельмі ўдалая. Трэба пераходзіць на такі транспарт. Па-першае, ён эканамічны, бо, напрыклад, на абслугоўванне электраправадоў, па якіх бегаюць тралейбусы, таксама шмат затрат патрабуецца. І электраэнергіі новая тэхніка ўжывае на 14 працэнтаў менш, чым той жа тралейбус. Дарэчы, электробус у момант тармажэння назапашвае энергію, і гэта ўсё дадатковая збіраецца ў канддэнсатар. Так што машына запраўляецца энергіяй не толькі на заправачных станцыях".*

Прадстаўнікі "Белкамунмаша" раней устрымліваліся называць кошт электробуса, але пры гэтым дадавалі, што ён даражэйшы за тралейбус.

*"Адзін электробус каштуе прыкладна 420 тысяч еўра,* – распавёў "Народнай Волі" спецыяліст, які добра знаёмы з такой тэхнікай. – *І гэта ў параўнанні з еўрапейскімі аналагамі не вельмі дорага. Напрыклад, сербскі кароткі электробус каштуе 480 тысяч еўра, а беларускія доўгія – на 60 тысяч танней. Пры гэтым у некаторых краінах Еўразсаюза іх кошт і наогул больш за паўмільёна еўра".*

...Напрыканцы, калі я ўжо развітваўся са сваімі суразмоўцамі, вадзіцель Анатоль шчыра мне прызнаўся: *"На тралейбусе працаваць, відаць, ужо больш не змагу. Гэта тое самае, што з "Мерседэса" перасесці на "Жыгулі".*

**Алесь СІВЫ.**

ВІНШУЕМ!

# Праврала!

*Учора беларуская біятланістка Дар'я Домрачава заваявала ў спрынце "серабро" на этапе Кубка свету ў нарвежскім Хальменколене.*



Першай была славачка **Анастасія Кузьміна**, на трэцім месцы – **Юлія Джыма** з Украіны. Яшчэ адна беларуская спартсменка – **Надзея Скардзіна** – заняла 24-е месца.

Нагадаем, што на ніядаўнай Алімпіядзе ў скарбонцы Домрачавай – "золата" ў эстафеце і "серабро" ў мас-старце.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ШТО ХВАЛЮЕ...

## Аляксандр РУМАК, намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь:

*"Пераразлік пенсіі будзе, але, хутчэй за ўсё, у другім паўгоддзі"*



Падчас "Прамой лініі" ў намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны А.Румака пацікавіліся: калі ў чарговы раз адбудзецца пераразлік пенсій? На гэтае пытанне ён адказаў так:

– Пераразлік пенсій будзе, але, хутчэй за ўсё, у другім паўгоддзі. На колькі яна вырасце, казаць рана: памер прыбаўкі будзе залежаць ад аб'ёму грошай, якія паступяць у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

***

Адным словам, сітуацыя з пераразлікам пенсіі пакуль цьмяная.

СТАЛА ВЯДОМА

# Перадумалі...

*«Россельхознадзор» з учарашняга дня хацеў забараніць пастаўкі малака з Беларусі. Аднак учора ён ад гэтых намераў адмовіўся.*

Стала вядома, што на наступным тыдні ў нашу краіну з Расіі прыедзе інспекцыя, якая наведае прадпрыемствы, якія пастаўляюць малако. Яна правядзе праверку «расійскіх патрабаванняў і нормаў».

Напярэдадні ў Маскве прайшлі перамовы ў справе ўрэгулявання пытанняў аб пастаўках малака. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў намеснік прэм'ер-міністра **Міхаіл Русы**.

ОФИЦИАЛЬНАЯ ПОЗИЦИЯ

Сергей ДУБИНА, начальник управления автомобильного и городского пассажирского транспорта Министерства транспорта и коммуникаций:

## «Не хотите выезжать на маршрут – никто не заставляет»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

– **Сергей Станиславович, нерегулярные рейсы в основном осуществляли индивидуальные предприниматели. Они опасаются, что их сейчас с рынка вытеснят более крупные компании и государственные перевозчики.**

– Если эти индивидуальные предприниматели будут сидеть по домам и кричать, что у них там прибыль хотят отобрать, их права ущемляют, то, конечно, с рынка их вытеснят. А если идти и работать... Мы им не раз говорили, что никто не хочет отобрать у них маршрут. Сегодня маршрутное междугороднее сообщение осуществляют только частники! И мы заинтересованы, чтобы они оставались на рынке, потому что облпассажиртрансы не смогут закрыть все направления, у нас нет такого количества подвижного состава. И не надо создавать ажиотаж! Со всеми, кто приходит подавать заявления на осуществление временных регулярных рейсов, мы готовы сотрудничать. Можно заключить договор без продажи билетов, и тогда перевозчик будет платить только за услуги обслуживания терминала на остановочном пункте, где будет осуществляться посадка и высадка пассажиров.

– **Насколько я понимаю, на уступки вы идти не согласны. Наверняка знаете, что на имя Александра Лукашенко передано коллективное обращение граждан в поддержку «нерегулярщиков».**

– А вы читали это письмо?! Скажите, разве кто-то выступает против частных перевозчиков на междугородном сообщении?!

Я уверен, что ситуация в ближайшее время нормализуется, страсти поулягутся. Годами перевозчики работают и на регулярных маршрутах, и сегодня они оказывают методическую помощь «нерегулярщикам», которые готовы заключать договора на регулярные рейсы.

– **Сергей Станиславович, и все-таки «нерегулярщиков», которые подали заявления на получение права временно работать на регулярных маршрутах, меньше, чем тех, кто категорически отказывается принимать новые условия работы и не выходит в рейсы?**

– Не могу сказать. Дело в том, что в Министерстве транспорта нет статистики относительно того, сколько перевозчиков занимается нерегулярными пассажирскими перевозками. Это невозможно отследить. Сегодня они вышли в рейс, а завтра – нет.

Могу только сказать, что частных фирм, которые осуществляют регулярные междугородные перевозки, в стране более 100.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЖИЗНЬ БЕЗ РЕТУШИ

# С неуважением к человеку

## *О работе некоторых служб ЖКХ в столице*

В 9.30 утра 6 марта в нашей квартире пропала горячая вода. А вслед за этим было отключено отопление.

Дом старый, с высокими потолками. Подъезд угловой. Так что за пару часов температура в квартире стала немногим выше, чем на улице.

Звоню в службу «115». Сообщают, что где-то произошла авария и горячую воду, а с ней и отопление включат не ранее 17 часов (включили в 18.00).

Для меня положение осложняется тем, что в доме двое больных. Я только что перенесла грипп в сочетании с ангиной. Прошла семидневный курс антибиотиков. Муж болен гриппом. Разгар болезни: температура 39ºС.

Опасаюсь обострения заболевания. Дурные прогнозы имеют свойство сбываться. К вечеру 6 марта у меня вновь поднимается температура. Ангина вернулась из-за холода в квартире.

Когда отопление включают, в одной комнате батарея остается ледяной. В той, что лежит больной муж. Она в обычных условиях самая теплая в квартире.

Пробую действовать через службу «115». Когда ее вводили, то городская администрация подавала это как панацею от всех зол. Я больших надежд со службой не связываю. Из прошлого опыта знаю, что заявку примут. И только.

Заявку действительно принимают. Причем довольно быстро. Ранее в «115» часто невозможно было дозвониться. Почти как в диспетчерскую моего ЖЭСа. Но там-то нередко просто снимали трубку и клали на стол. Чтобы диспетчеру не мешали заниматься другими делами. По крайней мере я не раз заставала такую картину, когда приходила в ЖЭС подать заявку письменно, раз уж не удалось дозвониться.

7 марта в 9 утра звоню в колл-центр ЖКХ, чтобы узнать, когда ждать мастера. Спасение утопающих – дело рук самих утопающих. Завтра ведь – 8 Марта. А с ним – четыре выходных дня.

В голову лезут несвоевременные мысли: а не слишком ли роскошно гулять четыре дня подряд при сегодняшней экономической ситуации? Особенно для служб, связанных с жизнеобеспечением большого города.

Сотрудница колл-центра сообщает мне, что моя заявка в работе. Забегая вперед, отмечу, что мои заявки №№1346, 1368, 1386, 1403 будут «в работе» четыре дня. И получат при перерегистрации четыре порядковых номера.

Почему отменяются невыполненные заявки и регистрируются как новые – не уточняла. Может быть, чтобы не так скандально выглядел саботаж запросов граждан со стороны системы ЖКХ?

В последующем каждый час перезваниваю, чтобы узнать, когда же придут с ремонтом системы отопления. Кормят обещаниями.

В 12 часов предпраздничного дня звоню на «горячую линию» председателя Мингорисполкома. Положение отчаянное: мы, двое больных, рискуем на все праздничные дни остаться без тепла в «стратегически важном» помещении! Знаю, что и верхние, и нижние соседи используют маленькую комнату под спальню как самое теплое место в квартире. Например, в квартире под нами в такой комнате обитает бабушка – ветеран войны.

Представитель городской власти пытается убедить меня, что обращение – не по профилю. Дескать, сначала мне надо пройти «все круги ада» в моем районе. И настойчиво предлагает обратиться в КУП «ЖКХ Первомайского района» и свой ЖЭУ. А также предлагает позвонить 9 марта (!) на прямую (или «горячую»?) линию районной администрации. Объясняю, что таким образом я обычно и действую. Но сейчас нет времени идти по процедуре – нужно экстренное вмешательство. Иначе с аварией отопления уйдем на праздники. Поясняю также, что в прошлом не удавалось получить помощь в подобных ситуация от всех упомянутых инстанций. В частности, годом ранее заводушенные батареи оставались холодными в большие холода 14 дней! И это после личных визитов жильцов в ЖЭУ №3 и в приемную главы районной администрации с регистрацией письменных обращений. На которые через бюрократически регламентированное время поступали формальные отписки.

Конечно, и в КУП «ЖКХ Первомайского района», и в ЖЭУ №3 для очистки совести я позвонила. И что? Пришел молодой человек и пощупал батарею. Через час он же пришел вместе с начальником. Тот тоже пощупал батарею. Еще через час тот же молодой человек пришел еще раз и сказал, что для ремонта нужна сварка. Что назавтра дежурный свяжется с городской аварийной службой и закажет аппарат. Неисправен какой-то вентиль.

Реально в этот предпраздничный день нам пыталась помочь только сотрудница 2-й линии колл-центра ЖКХ Марина. Она постоянно звонила в ЖЭУ и сообщала мне о ходе переговоров по телефону.

8 марта в службе «115» в очередной раз мою заявку перерегистрировали и передали в городскую аварийную службу. В ГАС дежурный сотрудник пытался отделаться дежурным советом включить обогреватель и отказом признавать проблемы с отоплением одним из видов аварии. По его словам, «авария – это когда с потолка на жильцов течет кипяток».

Когда сталкиваешься с ситуацией, что профильные исполнители не знакомы с азами их же профильного законодательства, – становится страшно. Пришлось представиться автором Закона «О защите прав потребителей жилищно-коммунальных услуг» и объяснить ситуацию с точки зрения законодательства.

Две трети дня 9 марта также были посвящены попыткам «перезапустить» холодную батарею. В этом мне помогала еще одна сотрудница колл-центра ЖКХ – Майя. После долгих «торгов» между сторонами треугольника «жилец – главный инженер ЖЭУ №3 – представитель городской аварийной службы» при посредничестве Майи к концу дня компромисс был достигнут. Оказывается, в случае, когда необходимы сварочные работы, ЖЭУ выступает как подрядчик и должен их оплатить. Представитель ЖЭУ это делать отказывался. Согласился только после долгих дебатов.

К вечеру 9 марта в квартиру вновь пришли люди. На этот раз представители ГАС. Аварийщики зачем-то опять щупали батарею. А потом долго искали источник аварии: сначала на чердаке, затем в подвале. Оказалось, дежурный по ЖЭУ даже не передал аварийщикам информацию по домовому оборудованию. По их словам выходило, что в ЖЭУ вообще никого нет.

Не знаю, кому верить, потому что утром того же дня сотрудники ГАС отчитались, что якобы не получили доступа в квартиру. Что им не открыли, когда они звонили по домофону.

Пришлось объяснить диспетчеру службы «115», что этого не было. Ибо и я, и муж болеем и не выходим из дома. Вообще.

Тогда последовало уточнение. Якобы приходили к нам в 1 час 50 минут ночи. Кто ж этому поверит, раз аварийный случай не требует врываться в квартиру в ночное время? По их же терминологии, с потолка-то кипяток не течет. Кроме того, я лично раньше двух часов ночи спать не ложусь. Я – «сова».

Короче, отопление через четыре дня холода и 44 телефонных обращения починили. Но осадочек-то остался.

Я вот думаю: если бы я так организовала работу своей общественной приемной в бытность депутатом парламента, как организовали работу ЖКХ городские и районные власти, – гнать меня надо было бы поганой метлой! Но я-то, напротив, делала куда больше своих должностных обязанностей. Например, коллеги вели один, максимум два приема избирателей в месяц. Я вела пять приемов. Поэтому у меня не было нагромождения проблем. И это без большого штата исполнителей!

Выражаю персональное недоверие районной и городской администрациям. Перестаньте рассматривать нас, минчан, как балласт, мешающий вам нормально жить в параллельной реальности. Мы вас содержим, а не наоборот. Это ваше счастье, что еще не все наши сограждане поняли этот факт и осознали себя налогоплательщиками. Но когда-нибудь люди осмысленно откажут власти в доверии. Со всеми вытекающими последствиями.



**Ольга АБРАМОВА, депутат Верховного Совета 13-го созыва, депутат Палаты представителей 2-го и 3-го созывов.**

МІФ



# Андрэй РАЎКОЎ, міністр абароны Беларусі:

*– Чаму ў нашай краіне, якая мае шматвекавую гісторыю, стогадовы юбілей войска адзначаецца менавіта ў 2018 годзе? Гэта заканамерна: наш народ беражэ гісторыю. І самыя яскравыя падзеі прыпадаюць менавіта на XX стагоддзе. Рэспубліка Беларусь стала пераемніцай найлепшага, што было ў Саюзе. Была і застаецца дата 23 лютага – дата нараджэння Чырвонай Арміі. Арміі, якая стала галоўным фактарам захавання беларускага народа ў тых умовах. Беларускае войска – пераемнік усяго найлепшага, што было ў савецкім войску. Мы верныя традыцыям.*

*(Сказана падчас прэс-канферэнцыі, люты 2018 г.)*

**"Народная Воля" не аднойчы развейвала міф, якому, як бачыце, да сённяшняга дня пакланяецца міністр абароны Беларусі спадар А.Раўкоў. І не было б ніякай бяды, калі б яго беспадстаўныя ўяўленні гістарычнага кшталту заставаліся асабістым поглядам, але ж ён, карыстаючыся дзяржаўнай пасадай, імкнецца множыць іх у галовах маладых салдат і афіцэраў нашай арміі. Вось чаму мы вырашылі вярнуцца да тэмы "23 лютага" і папрасілі вядомага гісторыка Анатоля Сідарэвіча падрабязна пракаменціраваць прапагандысцкае выказванне міністра абароны Рэспублікі Беларусь А.Раўкова.**

КАМПЕТЭНТНА

## Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык:

# «100-годдзе беларускай арміі» – праява саўковасці

Паводле Раўкова выходзіць, што 23 лютага Узброеныя сілы Беларусі адзначылі сваё… 100-годдзе. Гэта значыць: у перыяд ад 18 да 23 лютага 1918 года, калі галоўнакамандуючы Заходняга фронту Мяснікоў даў лататы ў Смаленск, а немцы ішлі на Магілёў і Полацк (далей ісці намеру не мелі), нарадзілася беларускае войска, якое бараніла Беларусь.

Калі ж верыць штатным прапагандыстам, то 23 лютага нарадзілася Чырвоная Армія, якая спыніла немцаў пад Псковам і Нарвай. Аднак гэта далёка не так: ніхто немцаў не спыняў, бо ісці на ўсход далей за Пскоў і Нарву яны не планавалі. Былыя нямецкія ўладанні Курляндыя, Ліфляндыя і Эстляндыя апынуліся ў складзе рэйха – і немцам было гэтага дастаткова. Да таго ж ніхто з гісторыкаў не можа назваць таго палкаводца, які ўзначаліў супраціўленне немцам. Нядаўна давялося чытаць, што гэта зрабіў Леў Троцкі. Аднак тут няўвязачка. Народным камісарам па ваенных справах Троцкі стаў 14 сакавіка 1918 года, а да яго на гэтай пасадзе знаходзіўся Мікалай Падвойскі, той самы, які падпісаў дэкрэты аб выбарнасці камандзіраў у войску і аб ураўнаванні ўсіх вайскоўцаў у іх правах. Іншыя подзвігі за Падвойскім не лічацца.

Калі стаяць на грунце фактаў, а не міфаў, дык днём нараджэння рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі можна лічыць 15 (28) студзеня. Менавіта тады быў выдадзены дэкрэт Савета Народных Камісараў аб яе арганізацыі. Іншая справа, што ісці ў гэтае войска добраахвотна і рабочыя, і сяляне не надта хацелі. Толькі нямецкае наступленне змусіла бальшавікоў актыўна ўзяцца за армейскае будаўніцтва. І не на добраахвотнай аснове.



Але пры чым тут, спадар Раўкоў, беларускае войска?

У перыяд 1918–1920 гадоў Украіна сапраўды мела армію (у жніўні 1920-га яна, дарэчы, дапамагла Войску Польскаму здзейсніць "цуд на Віслe"). Але нашы браты-ўкраінцы вядуць гісторыю сучаснай арміі не ад таго часу, і нават не ад часу, калі з'явіліся рэестравыя казакі, і не ад часу, калі войска Багдана Хмяльніцкага першы раз перамагло палякаў, а ад таго дня, калі Вярхоўная Рада прыняла закон аб стварэнні сучаснай арміі сучаснай Украінскай дзяржавы. Ёй, гэтай арміі, няма і 30 гадоў. Гэткія ж маладыя і Узброеныя сілы Беларусі, стварэнне якіх пачалося ў 1992 годзе.

Яшчэ дурней выглядае афіцыйная гісторыя Памежных войскаў Беларусі. Лічыцца, што яны былі заснаваны 28 мая 1918 года – тады, калі Беларусь па Дняпро і Дзвіну займалі немцы, калі бальшавікі (і немцы таксама) лічылі Беларусь расійскім уладаннем.

І ўсё ж рэкорд глупства пабіла афіцыйная гісторыя Інжынерных войскаў Беларусі. Ім, гэтым войскам, "споўнілася", як я прачытаў у "Звяздзе", больш за 200 (!) год. Яшчэ не было Беларускай арміі (ёй жа, паводле сцвярджэння Раўкова, нібыта сёлета "споўнілася" толькі 100 гадоў), а Інжынерныя войскі ўжо існавалі і дзейнічалі. І заснаваў гэтыя войскі не нейкі там Аўгуст Моцны, вялікі князь літоўскі, кароль польскі і курфюрст саксонскі, пад чыім скіпетрам знаходзілася ўся сучасная Беларусь, а маскоўскі вялікі князь Пятро Аляксеевіч (тытула цара за маскоўскімі ўладарамі Еўропа не хацела прызнаваць)...

Усё гэта – праявы саўковасці, цяжкая каланіяльная спадчына. Боязь жыць сваім розумам і быць самастойнымі.

ДЫПКУР'ЕР

# Шэнгенская віза падаражэе

*Пра гэта паведаміла Еўракамісія.*

З прычыны дадатковых выдаткаў на арганізацыю бяспекі плануецца павялічыць кошт шэнгенскай візы з 60 да 80 еўра. Еўракамісія адзначае, што кошт шэнгенскіх віз не мяняўся з 2006 года. Аднак тэрміны падаражання, якое мае адбыцца, не ўказаны.

Мяркуецца, што пасля ўнясення паправак у Візавы кодэкс ЕС тэрміны выдачы віз скароцяцца з 15 да 10 дзён, падаваць заяўку на візу можна будзе за паўгода да даты меркаванай паездкі (цяпер за тры месяцы), а саму працэдуру запаўнення і падачы заяўкі зробяць цалкам электроннай. Шматразовыя візы на ўезд будуць выдавацца падарожнікам з добрай візавай гісторыяй з паступовым павелічэннем тэрміну ад года да пяці гадоў. БелаПАН нагадвае, што Беларусь і Еўрасаюз ужо некалькі гадоў вядуць перамовы па пагадненнях аб спрашчэнні візавага рэжыму. Калі пагадненне будзе падпісана, то кошт шэнгенскіх віз для беларусаў будзе складаць 35 еўра замест цяперашніх 60. Таму нам рана хваляваццa.

ВЫСТАВА

# «Крокі па вадзе» Вячаслава Паўлаўца

У мастацкай галерэі "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася выстава акварэляў вядомага мастака Вячаслава Паўлаўца. Гэта не першая выстава Паўлаўца: мінулая была ў мінскім Палацы прафсаюзаў у кастрычніку 2017 года, а Нацыянальная бібліятэка прымала аднаго з лепшых сучасных акварэлістаў у 2012 годзе.

Выстава называецца "Крокі па вадзе". Мастацтва акварэліста перш за ўсё вызначаецца ягонай здольнасцю перадаваць рухавасць стыхіі – святло, ваду, прамяні сонца, полымя вогнішча. І ў працах Вячаслава Паўлаўца жывыя і празрыстыя колеры якраз і перадаюць стыхію – адначасова эфемернасць прыгажосці і чалавечага жыцця. Трэба захапляцца імгненнем – бо ў імгненні адлюстроўваецца Вечнасць. З разуменнем гэтай нескладанай, але ж вельмі істотнай для кожнага чалавека ідэі глядач выходзіць з выставы Вячаслава Паўлаўца, каб зноў шукаць сустрэчы з працамі майстра.

**Алесь КЛЯЎЧУК.**

100 РАДКОЎ

## Міхася СКОБЛЫ



# Як знаходзяць ворагаў у Музеі Коласа

Давялося мне неяк у нятлумнай кампаніі пабываць у Яснай Паляне. Уражанняў я вывез адтуль нямала, але найдаўжэй запомніліся хіба тры: голас самога Льва Мікалаевіча з ракавіны старадаўняга грамафона, жорны, расколатыя на часткі так, што нагадвалі пялёсткі васілька, і магіла пісьменніка без хоць якога помніка – проста грудок зямлі. А яшчэ запомнілася непрацяглая гутарка з дырэктарам музея Уладзімірам Іллічом Талстым, які некуды спяшаўся, але паспеў адказаць на некалькі нашых пытанняў. Ужо адно тое, што з намі размаўляў прапраўнук Льва Талстога, па абавязку службы і па спадчынным праве гаспадар Яснай Паляны, дадавала ёй у нашых вачах гістарычнай сапраўднасці.

Збоку заўсёды прывабна выглядае, калі ў музеях выдатных людзей працуюць іх нашчадкі. Незалежна ад пасадаў для экскурсантаў яны найперш жывыя экспанаты, ці, калі хочаце, першакрыніцы. Была такой першакрыніцай, напрыклад, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч – жонка Янкі Купалы, стваральніца і першая дырэктарка яго музея. Шмат гадоў аддаў музею свайго бацькі Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч – сын Якуба Коласа. Увогуле, любы музей стараецца завязаць як мага больш цесныя стасункі з нашчадкамі свайго, фігуральна кажучы, хлебадаўцы.

На жаль, у Беларусі ёсць музей, адміністрацыя якога перастала трымацца гэтага няпісанага правіла. Ушчэнт рассварыўшыся з усімі нашчадкамі, адгарадзіўшыся ад іх – у прамым і пераносным сэнсе – плотам недаверу, знаходзячы ворагаў там, дзе неабходна было знаходзіць сяброў. У выніку чаго ўнікальны культурны асяродак панёс непапраўныя страты – маёмасныя і іміджавыя. І як жа прыкра і сумна пісаць, што асяродак гэты – ужо згаданы дзяржаўны Музей Якуба Коласа.

Пачну з таго, што абурыла не толькі мяне. Летась у музеі рыхтавалася выстава-экспазіцыя, прысвечаная пісьменніку і педагогу Міхасю Міцкевічу (псеўданім Антось Галіна), які з 1950 года жыў у ЗША. Яшчэ Максім Гарэцкі ў сваёй беспамылковай "Гісторыі беларускае літаратуры" называў яго "вельмі спадзейным маладым белетрыстам і паважным публіцыстам". Як на добры лад, музей проста мусіў заапекавацца ім – як малодшым братам Якуба Коласа. Праўда, у часы Другой сусветнай вайны на акупаванай тэрыторыі Міхась Міцкевіч працаваў школьным інспектарам, па савецкіх мерках быў калабарантам. Гэта ўрэшце, відаць, і пераважыла – выстава ў музеі была забаронена, як быццам на двары ў нас не трэцяе дзесяцігоддзе незалежнасці, а задушлівыя брэжнеўскія часы. Маўляў, хто быў ворагам народа тады, не павінен рабіцца героем і цяпер. Хоць які ж вораг народа Міхась Міцкевіч? Ці ж ёсць больш высакародная справа, чым вучыць дзяцей?

Я даўно знаёмы з **Верай Данілаўнай Міцкевіч** – унучкай народнага паэта. Прызнацца, мяне заўсёды прыемна здзіўляла яе абазнанасць у коласазнаўстве, здаецца, яна ведае пра свайго дзеда ўсё – і біяграфію, і творчасць, і ўсіх шматлікіх сваякоў, і ўсіх карэспандэнтаў (у тым ліку сардэчна-інтымных). Здавалася б, вось неацэнны супрацоўнік, якога ў музеі павінны прывітаць з распрасцертымі абдымкамі і берагчы, як зрэнку вока! І Вера Міцкевіч там у свой час працавала – амаль дзесяць гадоў. Але ў музеі сённяшнім працаўладкаванне ёй не свеціць. Не сышліся характарамі з кіраўніцтвам, і цяпер унучка ў дзедавым доме – ледзь не persona non grata. Дайшло да таго, што яна, ужо проста як даследчыца, мае праблемы з доступам да музейных фондаў. Знайшоўшы, з падказкі Арсеня Ліса, у вільнюскіх архівах невядомыя (!) лісты Якуба Коласа да кампазітара Канстанціна Галкоўскага, ніяк не можа апублікаваць тую перапіску, бо палова яе – пад музейным замком.

Замкі ў музеі вісяць не толькі на засакрэчаных з невядомых прычын фондах. Вялікі замок ад нядаўняга часу з'явіўся на веснічках агароджы, якая надзейна аддзяліла нашчадкаў Якуба Коласа не толькі ад музейнай тэрыторыі, але і ад сямейных гаражоў, якія здаўна выкарыстоўваліся дзвюма сем'ямі Міцкевічаў для захавання прадуктаў. Цяпер па бульбу ці хатнія марынады яны мусяць хадзіць праз парадную браму. Уяўляеце карцінку? Экскурсавод паказвае мемарыяльны дом, гаражы (дзе Колас ставіў дзяржаўны "Опель" і ўласную "Победу") і раптам вымушаны дадаваць: а гэта ўнучка паэта **Марыя Міхайлаўна Міцкевіч** па квашаную капусту прыходзіла…

Магчыма, квашаная капуста і паспрыяе больш тонкаму разуменню Коласавай творчасці, але плот-навабуд карысці адназначна не прынёс. Унук песняра **Андрэй Міцкевіч** у выніку забраў з гаража згаданую "Победу", якая магла б стаць каштоўным экспанатам – як Купалава "Шэўрале" ў Ляўках. Але не стала. Замест аўтэнтычнай "Победы" ў гаражнай экспазіцыі сёння выстаўлена мініяцюрная мадэлька кітайскай вытворчасці. Ды за тую Коласаву машыну музей мусіў трымацца рукамі і нагамі, дамаўляцца з уладальнікам, шукаць фундатараў. Тым больш прапаноўвалася яна музею па вельмі памяркоўнай цане.

Мог бы ўнук і падараваць тое дзедава аўто – скажаце вы. Мог бы. Але – не абавязаны. Да таго ж музейшчыкі ўжо атрымалі ў дар ад нашчадкаў звыш 1500 (!) экспанатаў. Відавочна, атрымалі б і больш, калі б паводзіліся больш разумна. Каб насуперак усякаму здароваму сэнсу Музей Коласа не пачаў варагаваць з нашчадкамі Коласа. Падобных выпадкаў у айчыннай музеялогіі я, прызнацца, не прыпомню.

Выклікае здзіўленне і кадравая палітыка ў музеі – толькі летась з яго звольніліся сямёра супрацоўнікаў. А на пачатку гэтага года працоўны кантракт не быў прадоўжаны дасведчанаму коласазнаўцу-фандавіку **Наталлі Шувагінай-Адамовіч** (дачцэ Алеся Адамовіча). У музеі кажуць: прычына звальнення – яе сяброўства з Міцкевічамі. Наталлю Аляксандраўну звольнілі так імкліва, што яна нават не паспела перадаць па акце музейныя рэчы – з 17.222-х камісія прыняла толькі 1131 найменне. Навідавоку – парушэнне, пра якое нашчадкі песняра, у тым ліку сын Міхась Канстанцінавіч, пісьмова паведамілі ў Міністэрства культуры. У адказ атрымалі адпіску ад намесніка міністра **Аляксандра Яцко**: музейны фонд налічвае… у каталогі ўнесена… рэжым захоўвання адпавядае… Як у той прыказцы: мы вам пра абразы, а вы нам пра гарбузы.

Застаецца дадаць, што да ўсіх вышэйапісаных падзей у Музеі Якуба Коласа мае службовае дачыненне яго нязменная дырэктарка **Зінаіда Камароўская** (кіруе ўжо 32-і год). Я не жадаю ёй зла і аўральнага выхаду на пенсію. Але наўрад ці яна мае маральнае права і далей заставацца на пасадзе, калі не разумее, што музей нацыянальнага класіка – ніякім чынам не тэрыторыя для звядзення асабістых рахункаў і варагавання з яго нашчадкамі.

РЕДКИЙ СЛУЧАЙ

# Попала в ДТП – потеряла голос

Пожалуй, это редчайший случай в Большом театре – отмена концерта за несколько часов до начала представления. В среду в Камерном зале должен был состояться вечер цыганского и русского романса "Вторят сердцу цыганские струны". Это авторский музыкальный проект известной певицы Елены Сало. Но буквально за несколько часов до начала дирекция объявила о его отмене "из-за болезни солистки". Накануне Елена попала в ДТП, и от стресса у нее пропал голос. Тонкий инструмент – голосовые связки! Казалось бы, всего лишь мышца, а понервничал и – голос не звучит. Елена, будучи за рулем своего автомобиля, говорит, что получила сильный удар и очень испугалась.

Я видела певицу на следующий день после аварии: маленькая аккуратная женщина, она, кажется, стала меньше от переживаний сразу чуть ли не вдвое. Сидела в артистическом гардеробе с носовым платком в руках, запрокинув голову от отчаяния. Срывается концерт! Конечно, голосовые связки певица скоро вылечит, но ведь второе ее выступление теперь тоже под вопросом: вечер еврейской музыки "Шалом", что назначен на воскресенье, 18 марта. Успеет ли восстановиться? И – извечный философский вопрос: что такое не везет и как с ним бороться?

Тем более что не вышла на работу концертмейстер. Здесь причина более прозаическая, но от этого, конечно, не менее печальная: пианистка Ирина Телепнева подхватила инфекцию. Хотя в этом году Минздрав эпидемию гриппа не объявлял, близкородственный ему вирус, как говорят медики, исправно косит горожан направо и налево. Артисты Большого даже ходят по театру в масках, стараясь не заражать друг друга, иначе с переносами спектаклей из-за болезней может начаться форменная чехарда в репертуаре.

**Виктория ДРОЗД.**



ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Свобода ценой в восемьдесят евро?

Европейская комиссия объявила о разработке новых правил, согласно которым, возможно, будут повышены цены на шенгенские визы в конце 2018 года. Теперь каждый, кто пожелает посетить государства, являющиеся членами Европейского Союза (а среди них – наши ближайшие соседи Латвия, Литва и Польша), должен будет заплатить 80 евро.

Что, и мы, граждане «регионального донора стабильности», «островка благополучия», «социального государства», будем платить 80 евро за визу? В то время как граждане Украины, где война, нестабильность, где злобный «Правый сектор» терроризирует мирное население, где не дают говорить на русском языке, куда не пускают Кобзона и даже Валерию (кстати – кто это?!), могут посещать Европу вообще без виз.

Если, не дай Бог, такое произойдет, то спрашивается: где справедливость?

Хотя это и есть справедливость, а вовсе не двойные стандарты. Украина заявила, что хочет в Европейский Союз. Пожалуйста: прежде чем подать заявку, пусть ваши граждане съездят туда беспрепятственно и убедятся в том, что они действительно этого хотят. Пусть внедрят у себя соответствующие стандарты демократии и экономической свободы. Пусть добьются независимости судов, свободы прессы, снижения уровня коррупции – и после этого единая Европа в лице уполномоченных представителей сядет с ними за стол переговоров.

Беларусь этого не заявляла. Белорусы добросовестно сидят на избранном ими гвозде, слегка поерзывая, но по принципиальным вопросам не возражая, время от времени ведут войны в рамках Единого таможенного пространства ЕврАзЭС и, стоя в очереди за вожделенным «шенгеном», матюгают европейцев, которые слишком дорого оценивают услуги по предоставлению виз. А теперь эти услуги будут стоить еще дороже. И еще вопрос, все ли получат этот самый «шенген» в условиях, когда напряженность во взаимоотношениях Европы и России постоянно возрастает.

При чем тут Россия? Ну, мы же с ней – того... В союзе, одним словом. Возрастает напряженность в отношениях с ней – электротоком бьет и по нам. «Возьмемся за руки, друзья, чтоб не пропасть поодиночке», – пел Булат Окуджава. Вот, взялись, так что удар по одному автоматом отдается и по второму другу.

Тут бы впору отойти, присесть на пенек и задуматься, стоит ли игра свеч, а овчинка – выделки. Подсчитать, что мы выиграли, а что проиграли от вхождения в Единое таможенное пространство. Насколько нам удается соблюдать предусмотренный нашей Конституцией статус нейтрального государства, и как несоблюдение этого статуса сказывается на наших отношениях с соседями. «Бухгалтерия», – скажете вы? Ну, да, конечно, не без бухгалтерии. А как иначе? Братские чувства молчат, когда белорусскую молочную продукцию не пускают на российский рынок. А сейчас и помидоры не пускают. А завтра перестанут пускать и креветки, в поте лица выращиваемые в заводях Припяти и Буга. Хотя границы между Россией и Беларусью вроде бы нет, и мороженое и пельмени российского производства к нам возят чуть ли не из Хабаровска и Благовещенска.

Все правильно. Украинцам «шенген» – как мечта о лучшей жизни. О том будущем, куда имеет смысл стремиться. А мечта – она ведь бесплатная. Поезжайте, посмотрите, осознайте. Платить будете уже в процессе реализации, поскольку любая кардинальная реформа системы обходится достаточно дорого. Но это будет плата не только за свободу передвижения в «шенгенскую зону», но и за реализацию мечты. А белорусы хотят, чтобы платили им. Чем больше, тем лучше. И безразлично, за что именно и какого качества. Поэтому мы, белорусы (да, я тоже – белорус и временами предпочитаю, чтобы и мне что-нибудь досталось похалявней), не платим, а расплачиваемся – за то, что погнались за дешевым газом, за дешевой нефтью, повелись на заверения в братских чувствах и обещания социальной справедливости и так далее, и тому подобное…

Со стороны это все выглядит беготней белки в колесе. Но время от времени хозяин останавливает колесо, дает рыжей «гонщице» выйти, упасть от головокружения мордочкой в снег и насладиться свободой.

Остается надежда, что для нас, бедных, Евросоюз все же сделает скидку, и виза будет стоить нам всего 35 евро. Поэтому, может, вообще рано волноваться?

КАДРАТРУС

# Валчкоў скача, як мячык

*Учора капітанам мужчынскай зборнай Беларусі па тэнісе прызначылі чалавека, якога знялі з гэтай пасады месяц таму.*

Нагадаем, што **Уладзімір Валчкоў** быў адхілены ад абавязкаў капітана 16 лютага гэтага года пасля таго, як нацыянальная каманда прайграла ў Кубку Дэвіса зборнай Аўстрыі – 0:5.

Як бачым, развіталіся са спецыялістам не надоўга. Учора было вырашана зноў даверыць яму кіраваць зборнай.

**Віталь ЗАБЛОЦКІ.**

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

## Новыя правілы Беларускай чыгункі: можна ездзіць стоячы і не плаціць за жывёл

Паводле пастановы Савета міністраў Беларусі, хутка на цягнік можна будзе набыць квіток на праезд стоячы. З'явілася норма, якая дазваляе перавозчыку ў некаторых выпадках прадаваць квіткі без месца ў вагоне. А за перавозку жывёл у ручной паклажы плаціць не прыйдзецца ўвогуле.

ПЫТАННЕ-АДКАЗ

# На 38 капеек больш…

*У "Народнай Волі" 2 лютага была надрукавана нататка "Павышаюцца пенсіі. Але не ўсе", у якой гаворка ішла пра тое, што з 1 лютага павялічаны памеры мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі да пенсій людзей сталага ўзросту, якім споўнілася 75 і 80 гадоў.*

*Так, гаворыцца ў публікацыі, з 1 лютага даплата да пенсій асобам, якія дасягнулі 75 гадоў, складзе 37,37 рубля, а даплаты да пенсій асобам, якія дасягнулі 80 гадоў, – 49,83. Маёй цёткі Яўгеніі Вікенцьеўне Аляшкевіч з Нясвіжскага раёна пад 90, але такой дабаўкі да пенсіі ў лютым яна не атрымала. Даплацілі капейкі – яна нават гэтага і не заўважыла.*

*Атрымліваецца, што "Народная Воля", якую я больш за ўсё паважаю за праўдзівасць і чэснасць, надрукавала няпраўду, увяла пенсіянераў у зман? Дайце, калі ласка, тлумачэнне.*

**Мікалай ГАДУН.**

***Мінск.***

| Выплаты | Да 1 лютага | З 1 лютага | Сума, на якую пабольшала выплата |
|---|---|---|---|
| Бюджэт пражытачнага мінімуму | 197,81 | 199,32 | на 1 рубель 51 капейку (0,76%) |
| Даплата да пенсій непрацуючых пенсіянераў, якія дасягнулі 75 гадоў | 37,09 | 37,37 | 28 капеек (0,75%) |
| Даплата да пенсій непрацуючых пенсіянераў, якія дасягнулі 80 гадоў | 49,45 | 49,83 | 38 капеек (0,77%) |

Паважаны Мікалай, а таксама Яўгенія Вікенцьеўна Аляшкевіч! "Народная Воля" надрукавла інфармацыю, скарыстаўшыся афіцыйным паведамленнем Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. І інфармацыя гэтая дакладная, бо ў ёй называецца менавіта памер даплаты, а не тое, на колькі гэты памер павялічыўся з 1 лютага.

Як вядома, з 2012 года згодна з указам А.Лукашэнкі да пенсій непрацуючых пенсіянераў, якім споўнілася 75 гадоў і болей, устаноўлены штомесячныя даплаты. Таму, хто дасягнуў 75 год, – 75%, з 80 год – 100% мінімальнай пенсіі па ўзросце. З 1 лютага 2018 года памер гэтых даплат адпаведна складае 37,37 і 49,83 рубля. Але менавіта такую суму ў лютым атрымалі толькі тыя непрацуючыя пенсіянеры, каму 75 і 80 гадоў споўнілася ў студзені 2018 года, то бок яны гэтую дабаўку да пенсіі атрымалі ўпершыню. Астатнім атрымальнікам гэтых даплат дадалі капейкі, і сапраўды пенсіянеры наўрад ці адчулі, што іх пенсія пабольшала. І вось чаму.

Справа ў тым, што мінімальная пенсія па ўзросце, ад якой залежаць надбаўкі да пенсій для ўзгаданых катэгорый пенсіянераў, у сваю чаргу залежыць ад бюджэту пражытачнага мінімуму (складае 25% БПМ). На колькі павялічваецца бюджэт пражытачнага мінімуму – адпаведна на той жа мізэр павялічваецца і мінімальная пенсія па ўзросце, і даплата да пенсіі тым, каму споўнілася 75 і 80 гадоў.

Так, з 1 лютага 2018 года бюджэт пражытачнага мінімуму вырас толькі на 0,85%, альбо на 1,51 рубля. Амаль на гэтыя 0,85% павялічылася і мінімальная пенсія па ўзросце, і даплаты, якія атрымліваюць пенсіянеры, што дасягнулі 75 і 80 гадоў. Гэта добра відаць з табліцы.

То бок Ваша цётка, паважаны Мікалай Гадун, атрымала ў лютым пенсію на 38 капеек больш, чым ў студзені (такую ж даплату яна будзе мець і ў сакавіку, і ў красавіку, бо новы памер БПМ усталяваны па 30 красавіка). Зразумела, што такую дробязь Яўгенія Вікенцьеўна і не заўважыла. Вядома ж, ёй, як і ўсім астатнім пенсіянерам, хацелася б мець больш істотную прыбаўку, ну хаця б 37 рублёў 37 капеек. Таму ў нашай інфармацыі ад 2 лютага "Павышаюцца пенсіі. Але не ўсе" яна, напэўна, убачыла тое, што хацелася б мець, а не тое, што ёсць насамрэч…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАЗІЦЫЯ

# 25-му Сакавіка быць дзяржаўным святам Рэспублікі Беларусь!

Кастрычніцкі пераварот 1917 года ў Расіі не прынёс сапраўднай радасці беларускаму народу. Бальшавікі Петраграда, беспадстаўна спасылаючыся на тое, што ў нас нібыта няма сваёй адметнасці, не хацелі бачыць у беларускім народзе самабытнага этнасу, а таму і адмовілі яму ў праве мець любога фармату дзяржаўнасць. Суседзі ж нашы – украінцы, літоўцы, латышы – такое вельмі жаданае, цалкам законнае права атрымалі, бо ў іх адсутнічалі ўсялякія праблемы з роднай мовай, не мелася патрэбы тлумачыць, даказваць гэта савецкай уладзе. Таму, браткі-беларусы, шануйма сёння, заўтра і заўжды гэты найкаштоўнейшы нацыянальны скарб, бо, калі застанёмся без яго, а справа ж, як на вялікае ліха, акурат і ідзе да гэтага, немінуча пазбавімся і Рэспублікі Беларусь. Яна трапіць у рукі тых, чыя мова напоўніцу запануе на нашых родных гонях. У якой мовы найбольш за ўсё шанцаў на такую экспансію, думаю, тлумачыць не варта.

Ігнараванне Петраградам, а затым і Масквою законнага права беларусаў на ўласную дзяржаўнасць выклікала пратэст не толькі сярод нацыянальна свядомых, найбольш адукаваных колаў беларускага грамадства. У пэўнай ступені абурэнне закранула і шараговых людзей. Не будзь масавага сапраціўлення, наўрад ці змаглі б грамадска-палітычныя дзеячы, інтэлектуалы цвёрдай беларускай нацыянальнай арыентацыі правесці ў снежні 1917 года Першы Усебеларускі з'езд з мэтай абмеркавання надзённых праблем нацыянальна-дзяржаўнага адбудавання. Бальшавікі з уласцівай ім рашучасцю разагналі з'езд, ужываючы грубую сілу. Іх гвалтоўныя, супрацьпраўныя дзеянні заўжды ўхваляліся беларускімі савецкімі гісторыкамі. А хтосьці яшчэ і сёння прытрымліваецца такога несправядлівага погляду, супярэчнага нашым нацыянальным ідэалам.

Прагрэсіўныя, стваральныя ідэі Першага Усебеларускага з'езда не расцярушыліся, не павіслі ў паветры. Ім наканавана было рэалізавацца ў фармаце Беларускай Народнай Рэспублікі, якая 25 сакавіка 1918 года абвясціла пра сваю дзяржаўную незалежнасць. Яшчэ і сёння не ўсе да канца ўяўляюць, у якіх экстрэмальных умовах гэта адбывалася. У самай сціслай форме нагадаю. Працу Першага Усебеларускага з'езда сарвалі ў канцы снежня 1917 года, а 21 лютага 1918 года Мінск захапілі кайзераўскія войскі. Замест таго каб ратаваць сваё ўласнае жыццё ад усіх жахаў вайны, краса беларускай нацыі займаецца праблемамі дзяржаўнасці, і займаецца даволі паспяхова. Пасля такога працяглага перапынку на беларускай зямлі нарэшце аднаўляецца сапраўднае нацыянальна-дзяржаўнае жыццё.

Ну ці ж гэта не радуе, не цешыць душы сённяшніх пакаленняў беларусаў, не выключаючы і многіх не адарваных ад нацыянальнай глебы палітыкаў, афіцыйных ідэолагаў! Шкада, што далёка не ўсіх, асабліва высокага рангу. Хто-ніхто не хоча прызнаваць вялікай заслугі БНР у тым, што яе палітычнае кіраўніцтва, не марнуючы часу, абвясціла беларускую мову адзінай дзяржаўнай, узяла цвёрды, адзіна правільны курс на стварэнне беларускамоўных сістэмы адукацыі і перыядычнага друку, надала прыярытэт нацыянальнаму пачатку ў сферы культуры. Як усё разумна, узважана! Сёння ўсё гэта зусім не ў модзе, таму і нясём мы такія каласальныя страты ў сваёй этнакультурнай самабытнасці.

Кіраўнікоў БНР трэба хваліць, браць з іх прыклад, што яны выступалі за дзяржаву Беларусь у яе этнаграфічных межах, вельмі асцярожна ставіліся да ўсякага роду палітычных саюзаў, бо гульні Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй у Саюзную дзяржаву могуць скончыцца для першай поўнай стратай нацыянальнага суверэнітэту.

БНР – гэта па-сапраўднаму адно з самых вялізных гістарычных дасягненняў ў палітычнай гісторыі беларускага народа. І як недаравальна, што ўсяго гэтага многія не разумеюць! Віна тут не толькі колішніх савецкіх палітыкаў, ідэолагаў, інтэлектуалаў. Не выключаю, што і сёння многія з пералічаных элітных катэгорый беларускага грамадства не да канца ўяўляюць лёсавызначальную ролю БНР. Калі б усё гэта было не так, мы летась не сталі б сведкамі жорсткай расправы з тымі, хто пажадаў 25 сакавіка выказаць сваю шчырую любоў да беларускай дзяржаўнасці, у якой зараз, як ніколі раней, вельмі хісткія пазіцыі. Мы не забыліся, што нелюбоў, непавагу палітычнага кіраўніцтва да БНР пастараліся ў сваіх інтарэсах выкарыстаць рознага роду дэструктыўныя сілы, каб прыцягнуць да сябе ўвагу і службоўцаў. І яны не засталіся ўбаку. Прычым больш моцныя ўдары наносіліся імі не па правакатарах, а па сапраўдных патрыётах за іх шчырую аддансць ідэалам аднаўленай у ХХ стагоддзі беларускай дзяржавы. Ганьба! Сорам не толькі перад самімі сабой, але і перад усім светам!

Такому гвалту, нацыянальнаму нігілізму самой улады трэба нарэшце пакласці канец, бо БНР – гэта наш найвялікшы нацыянальны набытак, без якога не было б ні БССР, ні Рэспублікі Беларусь. Застаюцца лічаныя дні да стагоддзя гэтай славутай даты. Дзяржаве трэба не хістацца, а як мага хутчэй абвясціць яе агульнанацыянальным святам і разам з усімі прагрэсіўнымі коламі грамадства ўпершыню належным чынам адзначыць 25 Сакавіка. Дзякаваць богу, за час функцыянавання прэзідэнцкай вертыкалі яна навучылася ладзіць святы. Адзінае, што хацелася б ёй парэкамендаваць, – на гэты раз адзначыць свята супольна з апазіцыйнымі сіламі, паколькі ў іх непараўнальна больш аб'ектыўныя погляды на БНР, чым у афіцыйных палітычных і ідэалагічных структур. Пажадана як мага больш змяшчаць у перыядычным друку, электронных СМІ аб'ектыўных матэрыялаў па гісторыі БНР, не забываючыся пра яе самых знакавых дзеячаў. А іх, для многіх з нас амаль забытых, можна налічыць некалькі дзясяткаў. Нацыя павінна ведаць, ганарыцца сваімі сапраўднымі героямі. На шчасце, лёс не абдзяліў імі Беларусь.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

ЧИТАТЕЛЬ ПРОДОЛЖАЕТ РАЗГОВОР

# …Вот тогда можно будет говорить о какой-то справедливости

Уважаемая редакция!

Выводы и предложения, приведенные в статье «Пенсионное законодательство – на пересмотр!» («Народная Воля» за 2 марта 2018 г.), считаю правильными и поддерживаю их. Слов нет, при нынешнем пенсионном законодательстве о социальной справедливости говорить не приходится. Для подтверждения своих слов приведу пример того, как производится повышение пенсий.

Возьмем такую ситуацию. Один человек заслужил пенсию размером 300 рублей, другой – 3000 рублей. Проходит какое-то время, объявляется увеличение пенсий, как правило, в процентах. При увеличении пенсий на 10 процентов первый получит 330 рублей, второй – 3300 рублей. Чувствуете разницу? При последующих таких увеличениях разрыв в размере пенсий все более возрастает. О каком социально ориентированном государстве может идти речь?

Предлагаю увеличение пенсий производить не в процентном выражении, а в рублях, то есть каждому пенсионеру добавлять одинаковую сумму. Вот тогда можно будет говорить о какой-то справедливости. В моем примере первоначальный разрыв в пенсиях 2700 рублей (3000 – 300) будет сохраняться, в противном случае этот разрыв будет увеличиваться абсолютно необоснованно, то есть будет так, как сейчас и происходит: богатые становятся еще богаче, а бедные – еще беднее. В первую очередь это относится к неработающим пенсионерам.

**Алексей НИКИТЮК,**
**житель Бреста.**

КАРТИНА ЖИЗНИ

# Зачем кольцо с бриллиантом отдавать государству?

Посмотрел как-то по ОНТ ток-шоу «Наша жизнь». Задело.

Тема разговора – «черные копатели», это про тех, кого раньше называли кладоискателями. В студии полно народу, который дружно хлопает каждому красиво сказанному слову. Участники шоу активно обмениваются мнениями. Оказывается, кладоискателей нынче около двадцати тысяч; хлопцы сплошь ушлые, так и норовят что-нибудь найти и поиметь с находки выгоду. Не ленятся копаться даже на тысячекратно перепаханных колхозных полях и – вот гады! – даже там ухитряются что-то откопать. Особую ярость у борцов за археологическую справедливость – все находки принадлежат государству – вызывают металлоискатели, которыми пользуются вольные «любители археологии». Большинство участников подводит разговор к неизбежному выводу «держать и не пущать»: 1) всем копателям обязательно зарегистрироваться и пройти специальное обучение, 2) все металлоискатели зарегистрировать, 3) все раскопки производить под контролем профессиональных археологов, 4) может быть, создать инспекцию по контролю за раскопками.

Почему-то никто не вспомнил про лопаты, а их ведь точно надо поставить на учет, чтобы абы кто не надумал раскопать что-нибудь вроде «избушки на курьих ножках», где металлоискатели не нужны.

И никто не сказал вот о чем. Все, что лежит теперь в земле, легло в нее в результате деятельности государственных правителей, от великих князей до великих голодранцев, которые в истории Беларуси не переводятся. В абсолютном своем большинстве все возможные археологические находки, именуемые нынче артефактами, ранее принадлежали конкретным людям. Это колоссальные исторические и материальные ценности. Но время неумолимо. Естественные физические и химические процессы неизбежно эти ценности уничтожают. Стоит озаботиться тем, чтобы как можно скорее найти все, что возможно. И тут кладоискатели не лишние, потому что одним археологам не по зубам раскопать хотя бы то, что им известно, а неизвестного им несоизмеримо больше. Пусть даже кольцо с бриллиантом, найденное копателем (если такое случится), греет душу его любимой женщины теплом далеких и незнакомых ей предков (на определенных условиях), чем это кольцо будет стыть в ледяных пластах глины. Действующей законодательной базы вполне достаточно, чтобы без зубодробительных запретов регулировать действия копателей. Не хватает доверия: государства – к копателям, а копателей – к государству. Об этом и надо договариваться.

Присваивая то, что пока еще не сгнило в земле, государство сегодня не в состоянии разумно им распорядиться или сберечь. Можно было бы вспомнить собаку на сене, да не хочется: уж больно злая получается псина. А сено жалко, ведь все равно сгниет.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.**

SOS!

# Назарбаеў ратуе казахаў, а хто выратуе беларусаў?

У адным з папярэдніх нумароў "Народнай Волі" паведамлялася, што Нурсултан Назарбаеў ініцыіраваў пераход Казахстана з кірыліцы на лацініцу. Ён афіцыйна заявіў, што неабходна самым актыўным чынам пашыраць сферу выкарыстання казахскай мовы. Вось дакладная цытата: *"Працэс пераходу на лацініцу з'яўляецца гістарычна важным для нашага народа. Разам з тым неабходна працягваць работу па павышэнні статусу казахскай мовы. Дзейнасць парламента і ўрада павінна здзяйсняцца толькі на дзяржаўнай мове. У той жа час нельга абмяжоўваць правы грамадзян у гэтым пытанні. Для гэтага ёсць магчымасці сінхроннага перакладу"*.

Назарбаеў, як бачыце, ратуе казахаў ад моўнай асіміляцыі. А хто выратуе беларусаў? Вось бы Аляксандру Лукашэнку перахапіць вопыт казахскага прэзідэнта. У нас жа і парламент русіфікаваны, і ва ўрадзе не пачуеш роднага слова. Вытраўлена беларуская мова з паўсядзённага ўжытку, лічы, ва ўсіх сферах нашага жыцця. Гэта ж трагедыя для нацыі!

**Надзея СЕЛІВОНЧЫК,**
**грамадзянка Рэспублікі Беларусь.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Так хочется, чтобы Борис Владимирович вернулся на Родину!

Дорогой Иосиф Павлович, дорогая редакция!

Я ваша давняя читательница, поклонница, подписчица. Став пенсионеркой, отказалась от многого, но не от «Народной Воли».

Давно собиралась написать, но сейчас есть повод: поблагодарить вас за серию статей о Борисе Владимировиче Ките, за заботу о нем, поддержку и, главное, за получение разрешения-желания на захоронение в Беларуси.

Вы все еще молодые (слава Богу!) люди, а мне уже 83 года, и я точно знаю, что каждый белорус хочет уйти в родную землю: «як не дрэвам, хоць кветкай прарасці для жывога…»

Это правда, все вы это со временем поймете.

К 40 дням напечатайте, пожалуйста, благодарность церквям и людям, которые почтили память Б.В.Кита, пусть люди поставят свечи, помолятся за него, пусть страна достойно проводит своего Великого сына.

Пожалуйста, больше рассказывайте о Борисе Владимировиче: пусть о нем знают все.

Нужно, чтобы желание Великого Белоруса было исполнено: возможно, нужно организовать сбор средств на памятник и перезахоронение, это важно для всех белорусов, особенно для молодежи.

А в Германии на его могиле пусть тоже остается памятник (дорогая земля там оплачена!) в благодарность стране, где Борис Владимирович провел последние годы.

Так хочется, чтобы это случилось!

Когда-нибудь в Беларуси будет пантеон: нам ведь есть кем гордиться!

Дорогие, любимые, родные люди! Мы вами восхищаемся и благодарим за ваш нелегкий труд: ведь вы дарите нам надежду…

Пусть Господь хранит вас всех!

Будьте всегда здоровы!

Спасибо.

**P.S.** *Простите, я не подписываюсь, просто знаю, что очень многие думают так же, как и я.*

Еще раз будьте здоровы!

*Минск.*

### *ОТ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА*

Вот такое письмо легло несколько дней назад на мой рабочий стол.

Прочитав его, я подумал: хвалебные слова в адрес редакции – это, конечно, аванс, нам еще работать и работать, чтобы оправдать доверие читателей. И хотелось всё, что касается нас, журналистов, опустить, оставить только мнение автора об увековечении памяти дорогого нам всем Бориса Владимировича Кита. Но, сделав это, я выветрил бы дух письма. А для нас, сотрудников «Народной Воли», главное – сохранить теплоту каждой авторской строки, сполна передать все мысли, идущие из глубины человеческих душ. А потому, принимая во внимание значимость рассуждений автора письма о Великом сыне Беларуси Б.В.Ките, я принял решение напечатать его без сокращений и, как исключение, даже без конкретной подписи.

